Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 500.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Аўторак, 16 чэрвеня 1998 г. № 63 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Графіці ад Шчукіна

**У цэнтры Мінска ў суботу з'явіўся велізарны надпіс «Свабоду дэпутату Клімаву!». Прычым не дзе-небудзь, а на сцяне будынка міністэрства ўнутраных справаў.**

Аўтар надпісу — дэпутат Валерый Шчукін. Гэтую работу Шчукін выконваў ярка-зялёнай фарбай, сярод белага дня, не таячыся. Каля будынка МУС ён і быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі. Выхадныя дні дэпутат правёў за кратамі.

Учора справу В.Шчукіна разгледзеў суд Цэнтральнага раёна Мінска. Суддзя Анатоль Барысёнак расцаніў дзеянні дэпутата як дробнае хуліганства і даў яму 10 сутак арышту.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

### Беларускія эмігранты любяць Прагу

**Яшчэ адзін беларус стаў палітэмігрантам. Напрыканцы мінулага тыдня прытулку ў Чэхіі папрасіў 30-гадовы актывіст БНФ з Віцебска Юрый Мароз.**

Наша газета неаднойчы пісала пра гэтага хлопца; ён стаў рэкардсменам па колькасці штрафаў і адсідак за ўдзел у апазіцыйных акцыях. За мінулыя паўтара года Юрый правёў каля 40 сутак у турме, а агульная сума выпісаных яму штрафаў перавышае 100 мільёнаў рублёў.

Як нам паведамілі ва ўправе БНФ, нядаўна па Віцебску нехта пачаў распаўсюджваць чуткі, быццам Мароз плануе здзейсніць на Віцебшчыне шэраг тэрарыстычных актаў. Асцерагаючыся магчымага арышту, Юрась прыняў рашэнне пакінуць Беларусь.

Дарэчы, Мароз не першы беларускі апазіцыянер, які папрасіў палітычнага прытулку ў Чэхіі. Не так даўно туды эмігравалі яго віцебскія землякі Уладзіслаў Яндзюк і Сяргей Юрчанка, Аляксей Коваль і СяргейГрадоўкін з Мінска, а таксама цэлая сям'я з Мазыра. Беларусы «аблюбавалі» гэтую сярэдняеўрапейскую краіну, бо атрымаць прытулак там прасцей. Калі так пойдзе і далей, то Прага зноў можа стаць асяродкам беларускай палітычнай эміграцыі, як гэта было ў 20-30-я гады.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### «Звычайны прэзідэнт» у кампаніі з Паўлікам Марозавым

**У нядзелю кінарэжысёру Юрыю Хашчавацкаму ў Нью-Йорку была ўручаная ганаровая ўзнагарода — прэмія Нестара Альмендраса за лепшы дакументальны фільм года.**

Уручэнне прэміі было прымеркаванае да адкрыцця міжнароднага фестывалю дакументальнага кіно, які праводзіць праваабарончая арганізацыя *Human Rights Watch* пры садзеянні Міжнароднай лігі правоў чалавека. Праца Ю.Хашчавацкага адзначаная аўтарытэтным журы за *«смелую палітычную сатыру, адкрыты паказ таталітарызму, які ўсталёўвае прэзідэнт Лукашэнка — вялікі прыхільнік Гітлера»*. Акрамя кіназалаў у Нью-Йорку, Вашынгтоне і Бостане, фільм «Звычайны прэзідэнт» будзе паказаны ў Кангрэсе ЗША.

Другі прыз на фестывалі атрымала расійска-англійская стужка «Хлопчык-герой нумар 001», якая расказвае аб стварэнні і развянчанні міфа пра «геразім» Паўліка Марозава.

**Магдалена НЕПАКАЙ**





*Пасол Вялікабрытаніі Джэсіка Пірс (на здымку) хаця і не мае рэзідэнцыі ў Драздах, але падтрымлівае сваіх калег-амбасадараў, якія лічаць незаконным патрабаванне аб высяленні.*

## Усе на выхад!

Чым скончыцца канфлікт беларускага кіраўніцтва з замежнымі пасольствамі — пакуль не ведае ніхто. Афіцыйны Мінск працягвае настойваць, каб пасла «ачысцілі» рэзідэнцыі ў пасёлку Драздыда серады, 17 чэрвеня — такі тэрмін вызначыў прэзідэнт Лукашэнка. Амбасадары 14 краінаў адказалі сумесным дэмаршам, заявіўшы пратэст міністру Антановічу.

Якім можа быць далейшае развіццё падзеяў?

### Францыя

Знешнепалітычнае ведамства Францыі выступіла з пратэстам супраць высялення французскага пасла ў Беларусі з яго рэзідэнцыі ў Драздах. Калі кіраўніцтва Беларусі не адменіць свайго рашэння, французскі пасол будзе адкліканы для кансультацыяў у Парыж, заявіла прадстаўнік МЗС Францыі.

### Германія

*«Калі ў нашай рэзідэнцыі ў Драздах адключаць ваду і электраэнергію, то я гатовы бліжэйшым рэйсам палящець назад у Германію»*, — заявіў пасол ФРГ у Беларусі Хорст Вінкельман. Праўда, пасол выказаў надзею, што да гэтага не дойдзе. На думку сп. Вінкельмана, самыя складаныя пытанні можна вырашаць шляхам дыялогу. *«Аднак ствараецца ўражанне, што Беларусь — гэта краіна, дзе дыялог лічаць непатрэбнай раскошай»*, — зазначыў пасол.

### Літва

Калі беларускія ўлады ўсё ж выселяць рэзідэнцыі пасольстваў з дыпламатычнага гарадка Драздыа, Літва адкліча свайго амбасадара ў Вільнюс. Спачатку — для кансультацыяў. Гэтая праблема абмяркоўвалася на нарадзе, якую праводзіў прэзідэнт Валдас Адамкус. Адкліканне пасла для кансультацыяў у Вільнюс не лічыцца «рэзкім крокам» і хутчэй за ўсё адбудзецца, калі беларускія ўлады адключаць электрычнасць, ваду і тэлефонную сувязь у рэзідэнцыі літоўскага амбасадара. *«Але мы не будзем апускацца да ўзроўню беларусаў і не станем тут, у Вільнюсе, перакопваць дарогі і блакіраваць вароты»*, — заявіў прадстаўнік літоўскага МЗС.

### ЗША

Афіцыйны прадстаўнік Дзярждэпартамента ЗША Джэймс Рубін асудзіў спробы беларускага ўрада выселіць амерыканскага пасла і паслоў іншых замежных дзяржаваў з іх рэзідэнцыяў у Драздах. Нягледзячы на заявы МЗС Беларусі аб тым, што рамонтныя работы ў «пасольскім гарадку» прадыктаваны неабходнасцю замены камунікацыяў, урад ЗША лічыць, што беларускае кіраўніцтва «наўмысна парушае пагадненні аб арэндзе і патрабаванні Венскай канвенцыі», каб узяць пад свой кантроль нерухомасць у Драздах, сказаў Рубін. *«Мы прыкладаем вялікія намаганні, каб падтрымліваць працоўныя адносіны з Беларуссю, але цяпер урад Беларусі робіць гэтую задачу яшчэ больш складанай, праводзячы гэтую непатрэбную, недарэчную і незаконную правакацыю. Калі беларускі ўрад пойдзе на высяленне нашага пасла, мы адрэагуем адпаведным чынам і ўжо далі гэта зразумець ураду Беларусі»*, — адзначыў прадстаўнік Дзярждэпартамента.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Як у Беларусі «абараняюць прэзідэнта»

**Міжнародная праваабарончая арганізацыя *«Article 19»* распаўсюдзіла па сваіх каналах інфармацыю аб заканапраекце, падрыхтаваным беларускімі ўладамі дзеля «абароны гонару і годнасці прэзідэнта».**

*«Article 19»* паведамляе сусветнай грамадскасці, што нацыянальны сход Беларусі прыняў у першым чытанні папраўкі да законаў, якія прадугледжваюць суровае пакаранне за любую крытыку прэзідэнта. Праваабаронцы лічаць, што гэтыя меры стануць *«абуральным парушэннем Беларуссю міжнародных абавязацельстваў»*. Паводле Міжнароднай канвенцыі па грамадзянскіх і палітычных правах, якую падпісала і наша краіна, кожны чалавек мае права на свабоду выказванняў і атрыманне любой інфармацыі (пра гэта, дарэчы, гаворыцца ў 19-м артыкуле Канвенцыі, што і дало назву арганізацыі *«Article 19»*). Акрамя гэтага, сцвярджаюць праваабаронцы, па агульнапрынятых міжнародных нормах, меры па абароне рэпутацыі палітычных дзеячоў увогуле павінны быць менш жорсткімі ў параўнанні з абаронай звычайных грамадзянаў — бо крытыка палітычных фігураў неабходная ў інтарэсах грамадства.

*«Article 19»* звяртаецца да беларускага ўрада з патрабаваннем спыніць працэс прыняцця папраўак, а таксама адмяніць артыкул 5 закона аб друку і іншыя заканадаўчыя нормы, якія абмяжоўваюць свабоду прэсы. Праваабарончая арганізацыя таксама заклікае грамадзянаў усіх краінаў свету выказаць свой пратэст, прычым рэкамендуе звяртацца непасрэдна да Аляксандра Лукашэнкі, Міхаіла Мясніковіча, Анатоля Малафеева і Паўла Шыпука (у звароце прыводзяцца дакладныя адрасы вышэйшых службовых асобаў Беларусі), а таксама ў беларускія пасольствы і дзяржаўныя органы сваіх краінаў, адказныя за дачыненні з Беларуссю.

**Алена СУРКО**

### Беразоўскі праводзіць форум

**Учора ў мінскай штаб-кватэры СНД выканаўчы сакратар Барыс Беразоўскі адкрыў спецыяльны форум па праблемах рэфармавання садружнасці.**

Беразоўскі яшчэ раз падкрэсліў, што будзе мяняцца структура і стыль работы сакратарыята, але штаб-кватэра застанецца ў Мінску. Па словах Барыса Абрамавіча, з гэтым пагадзіліся ўсе прэзідэнты краінаў СНД. Кожная дзяржава прыслала на форум сваю афіцыйную дэлегацыю. Расійскую ўзначальвае намеснік міністра замежных справаў Барыс Пастухоў. Яго ж абралі старшынём форуму СНД.

Пленарныя паседжанне форуму будуць ладзіцца перыядычна і доўжыцца да верасня. Мяркуецца стварыць дзве рабочыя групы. Першая — па рэфармаванні СНД і яго органаў — будзе збірацца ў Мінску, а другая — па эканамічным узаемадзеянні — у Маскве. Форум павінен выпрацаваць шэраг рэкамендацыяў па ляччэнні СНД, якія разгледзяць прэзідэнты на чарговым саміце.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

### Лукашэнка аглядае пірамiды

**Учора прэзідэнт Лукашэнка са світай чыноўнікаў (40 чалавек) паляцеў у Егіпет.**

Двухдзённы візіт у краіну пірамідаў прадугледжвае перамовы з прэзідэнтам Мубаракам, старшынём парламента, генсекам лігі арабскіх краінаў. Як звычайна, прэзідэнт падпіша пагадненне пра асновы беларуска-егіпецкіх адносінаў і супрацоўніцтва, а таксама сумесную заяву па выніках візіту. Пасля падарожжа ў Егіпет самалёт Лукашэнкі возьме курс на Санкт-Пецярбург.

**А.Д.**

### Галадоўка за помнік

**У Бабруйску распачала галадоўку старшыня асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў Ганна Бокач.**

На гэты адчайны крок яе падштурхнулі дзеянні бабруйскіх уладаў, якія нечакана адмянілі свой дазвол на ўстаноўку помніка ахвярам палітычных рэпрэсіяў 30-50 гадоў у адным з гарадскіх сквераў. Цяпер гарвыканкам лічыць, што ахвярам будзе дастаткова простага каменя без памятнага надпісу.

Актывісты асацыяцыі, у якую ў Бабруйску ўваходзіць 3.000 чалавек, рашуча пратэстуюць, тым больш, што на помнік ахвярам савецкага рэжыму ўжо сабраная неабходная колькасць грошай. Іншага сродку барацьбы, акрамя галадоўкі, самі сталінскія вязні не бачаць. Галадоўку пратэсту, распачатую Ганнай Бокач, могуць падтрымаць і іншыя актывісты асацыяцыі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Пікет у скверы «трох марксістаў»

**Сёння ў адным з людных месцаў Мінска — у Міхайлаўскім скверы, дзе сыходзяцца вуліцы Свярдлова, Кірава і Маркса, адбудзецца пікет у абарону Беларускага гуманітарнага ліцэя.**

Пікет дазволены гарадскімі ўладамі. Сябры бацькоўскага камітэта і вучні ліцэя выйдуць з плакатамі, будуць раздаваць улёткі і збіраць подпісы ў падтрымку ліцэя, які ўлада збіраецца фактычна ліквідаваць.

У мінулым годзе ліцэісты і іх родныя ўжо праводзілі вулічныя акцыі пратэсту, у тым ліку і несанкцыянаваныя. Тады змаганне ішло за будынак ліцэя па вуліцы Кірава, які хацела адабраць ведамства Івана Ціцянкова. Каб сарваць гэтыя планы, змагацца прыйшлося больш месяца. Зараз, як лічыць бацькоўскі камітэт, лягчэй не будзе, але пікетоўшчыкі ўпэўненыя, што сілаў вытрымаць чарговую асаду ў іх хопіць. Пікет будзе выстаўлены ў два этапы: з 12 да 14 і з 17 да 19 гадзінаў.

Алесь ПАЎЛОВІЧ

## Маці Божую можна ўзяць дахаты

**Амаль год падарожнічае па каталіцкіх парафіях Беларусі драўляная копія вядомай у Еўропе Маці Божай Фацімскай.**

У касцёлах, дзе яна пабывала, застаецца яе зменшаная копія. Гэтую фігурку можна атрымаць на суткі і памясціць у сваім доме або кватэры. Дзеля гэтага трэба пакінуць свае пашпартныя дадзеныя і запісацца на чаргу. Так робяць, у прыватнасці, вернікі з парафіі Гродзенскага Фарнага касцёла. На жаль, некаторыя з іх праяўляюць «недысцыплінаванасць» і затрымліваюць Маці Божую на некалькі дзён.

Адам ЗАНЕЎСКІ



*На здымку: Маці Божая Фацімская адпраўляецца ў чарговы касцёл.*

## Старавойтава нельга трымаць у турме

### *Так вырашыла медыцынская экспертыза*

**Членам сям'і Васіля Старавойтава ўдалося дамагчыся для яго незалежнай медыцынскай экспертызы.**

Сваякі і адвакат былога старшыні калгаса, якога восьмы месяц трымаюць у следчым ізалятары, запатрабавалі гэтай экспертызы ў сувязі з рэзкім пагаршэннем стану здароўя 74-гадовага В.Старавойтава. У выніку медыцынскага абследавання эксперты зрабілі выснову, што цяперашні стан здароўя Старавойтава не дазваляе ўтрымліваць яго пад вартаю. Аднак вынікі медыцынскай экспертызы аўтаматычна яшчэ не значаць, што Старавойтава выпусцяць. Зараз усё будзе залежаць ад следства: ці палічыць яно хворага дзеда вельмі небяспечным злачынцам, якога трэба абавязкова трымаць у турме, нават не зважаючы на стан здароўя?

Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ

## Гігант спыніўся

**На мінулым тыдні перасталі дыміць коміны гіганта хіміі гродзенскага аб'яднання «Азот»: яно стала на капітальны рамонт.**

Гэта адбылося ўпершыню. Нават у савецкія часы ўлады не дазвалялі сабе спыняць прадпрыемства, якое пастаянна давала валюту. Але цяпер зрабіць гэта давялося, бо ўзнікла пагроза аварый на састарэлым абсталяванні. Рамонт будзе каштаваць дзесяткі мільярдаў рублёў, і напачатку ліпеня «Азот» зноў запрацуе напоўніцу.

Ёсць і яшчэ адна прычына, чаму неабходна адрамантаваць «Азот». На сусветным рынку яго прадукцыя робіцца неканкурэнтаздольнай. У Аб'яднаных Арабскіх Эміратах асвоілі тэхналогію і такую ж самую прадукцыю прадаюць па ніжэйшых коштах.

Дарэчы, «Азот» і яшчэ адно хімічнае прадпрыемства даюць у гарадскі бюджэт Гродна каля 60% усіх грошай.

Алеся ВОЙЦІК

## Багаты кліент «Маленькага прынца»

**На вельмі непрыемныя пытанні давялося адказваць у Мінскім гарадскім судзе Аляксандру Сазонаву, міністру прадпрымальніцтва.**

Ён быў выкліканы ў суд для дачы паказанняў па справе бізнесмена А.Саманкова, якога абвінавачваюць у дачы хабару. (Па версіі следства, Саманкоў спрабаваў даць хабар менавіта Сазонаву.) Распавёўшы, як «усё было», Сазонаў нечакана быў азнаёмлены з дакументамі, якія прадставіла абарона Саманкова. Гэта былі квітанцыі разлікаў па крэдытнай картцы сістэмы *Eurocard*, якія сведчылі аб тратах нейкага Аляксандра Сазонава ў розных гарадах Еўропы. Усяго было прадстаўлена разлікаў на 9.380 нямецкіх марак. З іх 5.371 марка была патрачаная ў Англіі (пераважна ў Лондане) у перыяд з 7 па 12 лістапада 1997 года. Як вынікае з дакументаў, А.Сазонаў жыў у лонданскім «Тауэр гатэлі» на «шырокую ногу» (за шэсць дзён патрацій 2.335 марак), яшчэ 530 марак патраціў на экскурсіі па Лондане і паездку ў Оксфард, 1.808 нямецкіх марак ён «спусціў» у ювелірнай краме.

На адной з квітанцыяў былі зафіксаваныя разлікі ў Германіі, на сусветна вядомым курорце Бадэн-Бадэн (той самы, дзе калісьці Фёдар Дастаеўскі прайграўся ўшчэнт у карты). Уладальнік Еўракарты нумар 52325602 55007884 (апошнія чатыры лічбы — асабісты нумар) прыехаў у Бадэн-Бадэн 31 снежня 1996 года. Тут у гатэлі *Der Kleine Prinz* («Маленькі прынц») А.Сазонаў сустрэў новы 1997 год і прабыў да 5 студзеня, заплаціўшы 2.404 нямецкія маркі. За пяць дзён!

*«Ці вашыя гэта траты зафіксаваныя ў дадзеных дакументах?»* — такое пытанне было зададзена міністру ў судзе. Аляксандр Сазонаў адказаў суддзі і адвакату, што не мае ніякага дачынення да прад'яўленых папераў. Далейшыя спробы адваката высветліць, ці бываў Сазонаў у пачатку 1997 года ў Бадэн-Бадэне, ці ў лістападзе таго ж года ў Лондане, суддзёю Васілевічам былі адхіленыя. *«Яны не тычацца сутнасці справы»,* — патлумачыў суддзя. Хаця высветліць гэтыя пытанні было лягчэй лёгкага — дастаткова было паглядзець у замежны пашпарт А.Сазонава-міністра.



*Міністр А.Сазонаў сцвярджае, што гэта не ён траціў тысячы марак у Германіі і Англіі.*

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

## У Лідзе разбураць гаражы

**Лідскі гарвыканкам прыняў рашэнне пачаць змаганне з гаражамі, пабудаванымі без дазволу.**

Такіх пабудоў хапае ў розных частках горада, але асабліва шмат іх у мікраераёне «Індустрыяльны», які знаходзіцца на самым водшыбе. Ягоныя жыхары пабудавалі ажно 442 гаражы і 133 хлеўчукі, прычым без дазволу архітэктурнай службы. Гарадскія ўлады вырашылі перайсці ад слоў да справы і разбурыць незаконныя пабудовы. Але гаспадары гаражоў гатовыя «грудзьмі стаць» супраць бульдозера.

Адам ЗАНЕЎСКІ

## Адзінокім могуць даць ложак у бальніцы

**Ужо амаль паўтысячы састарэлых жывуць у бальніцах Магілёўскай вобласці.**

Колькасць такіх кінутых людзей расце. Звычайна яны адзінокія, без належнага дагляду. Але большасць з іх не можа разлічваць на дом састарэлых: у іх ёсць сваякі, дзеці, унукі, але ў той жа час нібыта і няма — не прыходзяць, не дапамагаюць.

Вось і знайшлося выйсце. У вясковых і раённых бальніцах выдзяляюць пэўную колькасць ложкаў і аддаюць іх старым. Тыя могуць жыць тут па правілах да паўгода, але здараецца, што і даўжэй: ніхто ж не выганіць беднага, адзінокага старога чалавека. Дый людзям не хочацца пакідаць месца, дзе ім забяспечаны хоць нейкі догляд. 70% пенсіі дзяды і бабулі аддаюць бальніцы.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

## Трэба да натарыуса – станавіся ў чаргу

**Нядаўні ўказ Лукашэнкі робіць практычна немагчымай прыватную натарыяльную дзейнасць. Таксама гэтым указам улада спрабуе заднім чыслом прымусіць прыватных натарыусаў заплаціць ёй мільярдныя сумы.**

Упершыню мне давялося сутыкнуцца з нашай натарыяльнай сістэмаю гадоў шэсць таму — трэба было завераць копію дыплома. Фармальная дробязь нечакана (для мяне, недасведчанага)ператварылася ў вялікую праблему. Прыйшоўшы ў раённую кантору ў сярэдзіне дня, я адразу зразумеў, што «лавіць» там няма чаго.

Другім разам я з'явіўся а 7-й гадзіне раніцы, прастаяў ля паважнай дзяржаўнай установы ўвесь дзень і трапіў у кабінет перад самым закрыццём. «Зараз без дзесяці шэсць, — сказала натарыус, — да канца працоўнага дня я вас абслужыць не паспею». «Але ж я не кватэру купляю, а ўсяго толькі копію дыплома хачу заверыць», — пераконваў я. «Усё роўна не паспею: я павінна правяраць кожную літару», — быў адказ. Ніякія ўгаворванні і спасылкі на тое, што прастаяў у чарзе цэлы дзень, ні да чаго не прывялі.

### Першы прыватны натарыус

*«За год я ажыццяўляла прыкладна 10 тысяч натарыяльных дзеянняў,* — гаворыць прыватны натарыус Антаніна Турмовіч. — *Раённая натарыяльная кантора ў Мінску ажыццяўляе прыкладна 20 тысяч, але там працуюць чалавек дзесяць».*

На сённяшні дзень у Беларусі працуюць 109 прыватных натарыусаў (59 з іх — у Мінску). Антаніна Турмовіч была першым чалавекам, які атрымаў у 1993 годзе ліцэнзію на прыватную натарыяльную дзейнасць. *«Тады міністэрства юстыцыі заахвочвала натарыусаў да гэтай новай справы,* — расказвае А.Турмовіч. — *Нам гарантавалі, што калі эксперымент з прыватным натарыятам не атрымаецца, нас усіх абавязкова працаўладкуюць. Газеты тых часоў змяшчалі каментары юрыстаў наконт таго, што прыватны натарыят — гэта крок да прававой дзяржавы».*

Прыклад з прыватнымі натарыусамі выдатна паказвае, чаго вартыя гарантыі з боку нашай дзяржавы і наколькі яна прававая.

### «Такіх грошай у нас няма»

Указам № 289 «Аб некаторых пытаннях вяртання ў даход дзяржавы беспадстаўна набытай дзяржаўнай пошліны» Лукашэнка загадвае прыватным натарыусам унесці ў бюджэт дзяржавы велізарныя сумы, якія, на ягоную думку, з'яўляюцца «беспадстаўна набытымі». Сумы спаганяюцца за 1995 — 1997 гг., прычым індэксуюцца ў памерах ад 140% да 645%. Такім чынам, па падліках Турмовіч, прыватны натарыус, які працаваў у гэтыя гады, павінен заплаціць дзяржаве некалькі мільярдаў рублёў.

*«Натуральна, такіх грошай у прыватных натарыусаў няма,* — кажа А.Турмовіч. — *З натарыяльнага збору, які быў устаноўлены ў суме, роўнай дзяржпошліне, мы плацілі падаткі, аплачвалі працу тэхнічных работнікаў, арэнду офіса, куплялі камп'ютары, абсталяванне і гэтак далей.*

*Па новых правілах, з 1 жніўня прыватныя натарыусы будуць браць з кліентаў дзяржпошліну, якая пойдзе ў даход дзяржавы, а таксама натарыяльны тарыф, памер якога вызначыць Саўмін. Гэта само па сабе прывядзе да рэзкага ўздаражэння паслуг прыватных натарыусаў (раней цэны на іх паслугі не адрозніваліся ад дзяржаўных). І гэта ў лепшым выпадку — у горшым жа прыватным натарыусам проста немагчыма будзе працаваць, бо іхняя праца стане для іх стратнай.*

*Што ж тычыцца спагнання мільярдаў, дык я не ведаю, якім чынам гэта можна зрабіць практычна. Нават калі ў мяне апішуць усю маёмасць, гэтым не пакрыеш такой сумы грошай. Ніхто з натарыусаў не рыхтаваўся да такога павароту, паколькі вядомая аксіёма права — ніякі нарматыўны акт, накіраваны на пагаршэнне становішча суб'екта, не можа мець зваротнай сілы».*

### Прававая бязглуздзіца

Сітуацыю каментуе вядомая адвакатка **Вера Страмкоўская**:

— У адпаведнасці з падатковай сістэмай, якая існавала ў той час, натарыусы ўсё заплацілі. Спробы спагнаць з іх грошы заднім чыслом, надаючы ўказу зваротную сілу, — гэта поўная прававая бязглуздзіца. Указ пачынаецца са словаў «у мэтах абароны эканамічных інтарэсаў дзяржавы». Відаць, гэтым усё і тлумачыцца. Ва ўказе маецца вельмі шмат прававых недарэчнасцяў і супярэчнасцяў, — але людзі, якія складалі тэкст, пэўна, думалі не пра юрыдычную абгрунтаванасць, а пра чыста матэрыяльны аспект. Але «эканамічныя інтарэсы дзяржавы» нельга абараніць з дапамогаю прававой дэструктыўнасці.

Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ

## В Беларуси «победил» Лебедь

Результаты соцопроса, проведенного в Беларуси лабораторией «Новак», оказались весьма любопытными. Один из вопросов был задан в очень сослагательном наклонении, с тремя частицами «бы». Этот вопрос моделировал ситуацию, которая на сегодняшний день, слава Богу, является чисто умозрительной: возможность участия белорусских граждан в выборах российского президента.

Выяснилось, что самым популярным российским политиком среди белорусов является известный генерал Александр Лебедь, избранный недавно губернатором Красноярского края. Правда, среди наших сограждан он располагает весьма относительным большинством: всего лишь около 10%. Менее чем на 1% от него отстал нынешний президент России Борис Ельцин *(см. таблицу)*.

***«Если бы в ближайшее время состоялись выборы президента России и вы могли бы принять в них участие, за кого из известных российских политических деятелей вы бы голосовали?»***

| | |
|---|---|
| Лебедь | 9,3 |
| Ельцин | 8,4 |
| Черномырдин | 8,0 |
| Явлинский | 6,8 |
| Немцов | 5,1 |
| Зюганов | 4,2 |
| Жириновский | 2,8 |
| Лужков | 2,8 |
| Кириенко | 2,5 |
| Наздратенко | 0,3 |
| Селезнев | 0,3 |
| Чубайс | 0,3 |
| Рыжков | 0,2 |
| Анпилов | 0,1 |
| Гайдар | 0,1 |
| Горбачев | 0,1 |
| Лисицын | 0,1 |
| Лукьянов | 0,1 |
| Новодворская | 0,1 |
| Рыбкин | 0,1 |
| Тулеев | 0,1 |
| Федоров | 0,1 |
| Нет такого | 1,0 |
| Затрудняюсь ответить | 11,4 |
| Нет ответа | 35,7 |

Результаты опроса свидетельствуют о том, что российские демократы (при всей условности этого термина) пользуются у белорусов гораздо большей поддержкой, нежели демократы отечественные. Следующие места в списке заняли В.Черномырдин, Г.Явлинский и Б.Немцов, опередившие Г.Зюганова и В.Жириновского. Это значит, что наши избиратели в принципе готовы поддержать демократов — но то ли в родных широтах они пока не находят подходящих фигур, то ли эти фигуры не «раскручены».

Одновременно результаты опроса показывают, что «горячее стремление» граждан Беларуси объединиться с Россией в одно государство, о чем трубят наши официозные СМИ, является сильно преувеличенным. «Великие российские интеграторы» Г.Селезнев, Н.Рыжков, А.Тулеев и В.Анпилов, многократно «светившиеся» на экранах белорусского телевидения и в государственных газетах, набрали всего лишь десятые доли процента — от 0,1 до 0,3. Более того, почти половина опрошенных вообще не стала отвечать на вопрос, кого бы они поддержали на выборах президента России. Думается, не последнюю роль здесь сыграл тот факт, что многие граждане Беларуси не представляют и не хотят допускать возможности своего участия в выборах главы соседнего государства, и воспринимают это примерно как вопрос о кандидатах в президенты США или Франции, либо по крайней мере Польши или Литвы.

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

# Праздник Декларации? Вносите декорации!

*Российская «Общая газета» комментирует эпохальный документ главного защитника прав и свобод человека*

Раз и навсегда прикусят языки оппозиционные силы Беларуси и злопыхатели из разных стран, когда ознакомятся с документом, утвержденным указом президента Лукашенко. Ибо речь идет о плане мероприятий по празднованию в республике 50-летия Всеобщей декларации прав человека.



Этим вечным диссидентам, бесконечно ноющим либералам наконец-то будет показана во всей красе страна, где права человека не пустой пшик.

Прежде всего к празднику будет создан национальный логотип, отражающий всю суть и прелесть вышеозначенного юбилея. Логотип будет предложен народу «для широкого использования». Как намечено в плане, тексты отдельных статей декларации будут опубликованы «на троллейбусах, автобусах, трамваях и других средствах общественного транспорта». Ну, а полный текст будет издан в виде буклета, разослан всем получателям почтовой корреспонденции, вывешен на досках объявлений на предприятиях, в колхозах и учреждениях. Наверняка его вывесят и там, где сегодня сидят за нелюбовь к своему президенту уличные бузотеры из Белорусского Народного Фронта. Если праздник — то для всех!

Курс «Права человека» войдет и в программы подготовки офицеров и сержантов милиции. Пусть любители митинговщины не кричат, что их разгоняют малообразованные и не знающие основ демократии парни.

Особую гордость создателей плана должен вызвать пункт о проведении научно-практической конференции «Эволюция прав человека и их применение в Республике Беларусь». Действительно, права человека, как и он сам, имеют обыкновение эволюционировать. Вчера это было, скажем, право на жизнь, а сегодня уже на что-то прямо противоположное. Потом надо же учитывать специфику страны, особенности темперамента ее руководителя, его симпатии к той или иной форме демократии. И если Александр Григорьевич однажды сказал, что у фашистской Германии тоже было чему поучиться, то он этим показал лишь одно — как человек должен пользоваться правом на выражение своих мыслей и чувств.

Вообще надо заметить, что никто в республике не реализовал так свое право на свободу слова, как ее президент. Может быть, в ходе празднования юбилея Декларации к Александру Григорьевичу добавится кто-то еще. Потому как план обещает буквально захлестнуть страну ветром свобод.

А кому мероприятия не нравятся — тому и права человека, наверное, ни к чему. Такие отщепенцы по-прежнему будут строчить письма в международные инстанции.

Что ж, пусть клепают! Конверты и марки с эмблемой Всеобщей декларации планом мероприятий тоже предусмотрены.

**Юрий СОЛОМОНОВ,**
*«Общая газета»*

*Казахстан*

# Золотая Астана

**Участники саммита шести тюркоязычных государств — Казахстана, Туркмении, Узбекистана, Киргизии, Азербайджана и Турции, а также руководители некоторых сопредельных регионов имели возможность наблюдать пышные торжества по случаю презентации новой столицы Казахстана — города Астаны.**

Ровно год назад, 10 июня 1997 года, центру Акмолинской области городу Акмоле был присвоен статус столицы. Затем указом президента Нурсултана Назарбаева ей было дано новое имя. Старое название, которое переводится как «белая могила», вызывало ненужные ассоциации. Перевод столицы из прекрасной Алма-Аты руководитель суверенного государства объясняет желанием быть поближе к перекрестку крупнейших континентальных магистралей. Некоторые злые аналитики видят в этом еще и попытку покрепче зафиксировать суверенитет Казахстана над северными территориями.

Перенос столицы обошелся республике в 20 млрд. долларов, в пересчете на каждого жителя, включая младенцев и стариков, — более тысячи долларов. Трудящиеся зарабатывают здесь в среднем по 20-30 долларов в месяц, так что могут смело называть свою столицу золотой. Зато стало красиво. Переделано все — от фасадов зданий Астаны до железных и автодорог, соединяющих ее со старой столицей.

Несмотря на заверения правительства и президента, что все деньги, даже на торжественное открытие города, выделены инвесторами и компаниями, работающими в Акмолинской свободной экономической зоне, известно, что большую часть средств правительство получило, выпустив долговые обязательства. Например, на реконструкцию железной дороги Алма-Ата—Акмола у ЕБРР был взят кредит в размере 80 млн. долларов. Кроме возведения объектов городской инфраструктуры и прокладки коммуникаций, была проведена подготовительная работа и с историей Астаны. О достойном историческом прошлом города будет напоминать триумфальная арка в центре города. У подножия арки торжественно предадут земле кости воина-казаха, погибшего в Аныракайской битве в 1727 году. Можно не сомневаться, что арка будет предельно величественной, ведь в ее возведении примет участие творческая группа российского скульптора Зураба Церетели.

**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

*Индия*

# Беспощадное солнце

**По меньшей мере 2.700 индийцев погибли от тепловых и солнечных ударов в результате небывало жаркой погоды, установившейся с начала мая на огромных пространствах страны.**

По информации агентства *Associated Press*, наиболее кризисная обстановка сохраняется в восточном штате Орисса, где 48-градусная жара по-прежнему ежедневно уносит десятки человеческих жизней. Там погибли уже 1.300 человек. Власти вынуждены закрыть все общественные места и запретить уличную торговлю.

**Б.П.**

# «Комбат» с молотка

**Офицер Красной Армии, вскинув руку с пистолетом, звал в атаку солдат... со страницы «Уолл-стрит джорнэл».**

Человеку из СССР эта знакомая с детства фотография, помещенная в американской газете, подсказывала вполне логичное, на первый взгляд, объяснение: по случаю недавней 53-й годовщины Победы в Америке решили вспомнить, что во Второй мировой войне помимо «великих тихоокеанских битв» был еще и Сталинград. Однако догадка оказалась неверной. В газетной статье речь шла о товаре, проданном на аукционе, причем по довольно низкой цене — 550 долларов.

Дэйл Каплан, директор фотоотдела нью-йоркской фирмы «Суонн гэллериз», проводивший торги, подтвердила: фотография «Комбат» Макса Альперта действительно ушла с молотка в апреле нынешнего года. Покупатель — американец. Однако, по ее словам, Россия может не беспокоиться об утрате национального достояния: продан относительно недавний отпечаток классического фотопроизведения, датированного 1942 годом, с подписью автора, фотокора ТАСС. И это не единичный пример.

«В последнее время к нам поступает много русских фотографий, — сказала Дэйл Каплан. — Высоким спросом пользуются фотографии времен Второй мировой войны, снимки в духе соцреализма — парады, спортивные состязания, все, что показывает героическую суть коммунистической идеологии, а также, конечно, произведения всемирно известных фотографов. Но в то же время рынок очень молод. Многие коллекционеры просто не имеют представления об именах, образующих пантеон советской фотожурналистики. Однако каждый год выходит все больше материалов, организуются выставки, публикуются книги...»



По мнению ряда американских искусствоведов, мы живем в период переоценки значения фотографии. Ранее в массовом сознании она была лишь разновидностью информации. Теперь же на волне общественного интереса фотография встает в один ряд с великими произведениями живописи, становится предметом серьезного коллекционирования. Кстати, Дэйл Каплан решительно не согласна с предположением, что фотографии из России распродаются в Америке фактически за бесценок. «Отпечатки, датируемые 30-ми годами, приносят много денег — иногда 3 тысячи долларов и более, — подчеркивает она. — Все зависит от ситуации, но факт заключается в том, что интерес к подобным фотоматериалам неуклонно растет, и мы активно занимаемся их рекламой».

**Юрий КИРИЛЬЧЕНКО**

## Расизм жив. Человек мертв

**Зверское убийство потрясло Соединенные Штаты Америки.**

В техасском городке Джаспер трое членов белой расистской группировки избили до полусмерти 49-летнего чернокожего Джеймса Бёрда. Затем они привязали его к бамперу своего грузовика и протащили около 3-х километров по проселочной дороге. Как сообщило агентство *Reuter*, полиция обнаружила расчлененное тело Бёрда спустя несколько дней. По подозрению в совершении убийства минувшим вечером было задержано трое молодых людей. Старшему из них 31 год, двум другим — по 23. Все они принадлежат к одной из техасских расистских организаций. На время следствия преступники будут находиться в тюрьме без права освобождения под залог. Несмотря на то, что юг США никогда не был свободен от расизма, это ужасное происшествие повергло в состояние шока весь Техас, особенно черное население. Президент Клинтон уже заявил, что по этому делу будет проведено самое серьезное расследование.

**Б.П.**

## Лавіся рыба толькі вялікая

**Сапраўды пашанцавала рыбаку Аляксандру Шуту з райцэнтра Круглае Магілёўскай вобласці.**

Кожны мог бы ганарыцца такім уловам, які атрымаўся ў Аляксандра. Шчупака метровай даўжыні і вагой амаль 10 кг рыбак выцягваў з вады паўгадзіны. Больш як 20 гадоў Аляксандр Шут ловіць рыбу, але такая рыбіна яму трапілася ўпершыню.

Іван ЗАСАДА

## Усё больш прытонаў

**З пачатку года ў Магілёўскай вобласці міліцыя завяла ажно 92 крымінальныя справы, звязаныя з наркотыкамі.**

Паводле міліцэйскай статыстыкі, збыт наркотыкаў вырас у 2 разы. Яшчэ больш вырасла колькасць выяўленых прытонаў, дзе выраблялася і спажывалася наркатычнае зелле. Калі за ўвесь мінулы год быў зарэгістраваны ўсяго адзін такі прытон, то з пачатку 1998 г. — ужо 12.

Іван ЗАСАДА

## Багатыя не хочуць быць алкаголікамі

**У Гомельскім абласным наркалагічным дыспансеры стаяць на ўліку 22 тысячы алкаголікаў і больш за 1 тысячу наркаманаў (апошніх ва ўсёй краіне налічваецца 2.600 чалавек).**

— Аднак гэтыя лічбы — толькі вяршыня айсберга, — лічыць загадчык кансультатыўнага аддзела дыспансера В.Грышын. Бо тыя, хто звяртаецца па дапамогу добраахвотна, на ўлік не ставяцца.

Дарэчы, калі раней у наркадыспансер звярталіся ў асноўным мужчыны сярэдняга ўзросту, у якіх узнікалі праблемы ў сем'ях, дык цяпер часцей прыходзіць моладзь. Звычайна гэта бізнесмены або камерсанты, якія зразумелі, што, нават маючы вялікія грошы, каб жыць нармальна і радавацца жыццю, трэба быць цвярозым.

Ядзвіга КОПАЦЬ

## Каменданцкая гадзіна для садаводаў

**Гарадскія ўлады Гомеля забаранілі выкарыстоўваць пітную ваду для паліву прысядзібных участкаў. Парушальнікам пагражае высокі штраф.**

Не будуць перасьледвацца толькі тыя гомельцы, якія маюць звычку паліваць гароды па начах — з 11 гадзін вечара да 5 гадзін раніцы. А вось кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацыяў, якія адважацца выкарыстоўваць пітную ваду на паліўку тэрыторыяў і зялёных насаджэнняў, будуць штрафаваць незалежна ад часу сутак.

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

## Кураняты прыляцелі!

**Больш за 40.000 куранятаў прывёз у Магілёў з Германіі спецыяльна зафрахтаваны самалёт.**

Жывы груз прыбыў з Магдэбурга на адрас мясцовай птушкафабрыкі. Тут спадзяюцца, што з нямецкіх куранятаў вырастуць дарослыя птушкі асабліва прадукцыйнай курынай пароды. Фабрыка заплаціла за жоўтых птушанят больш за 300.000 дойчмарак.

Іван ЗАСАДА

## Немцы пабудавалі камунізм у Мазыры

**Кожны аўторак і чацвер у фае Мазырскай паліклінікі № 1 збіраецца велізарны натоўп людзей.**

Хворыя з усяго горада прыходзяць сюды, каб па рэцэптах урачоў бясплатна атрымаць лекі. А пастаўляюцца бясплатныя медыкаменты ў Мазыр з Нямеччыны. Кантралюе работу дабрачыннай аптэкі доктар Карл Хайнц Ёахім.

Алена НЕСЫН

## Дранікі на Чорным моры

**Чэрыкаўскае кулінарнае вучылішча Магілёўскай вобласці вырашыла, што яго навучэнцам лепш за ўсё праходзіць практыку на Чарнаморскім узбярэжжы.**

Амаль 110 чалавек паехалі на поўдзень. Там яны здолеюць не толькі папрактыкавацца на страўніках курортнікаў, але і зарабіць за гэтую працу. Ды, можа, яшчэ і здароўе падправяць...

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

# Даты і лёсы

*16 чэрвеня*

**1903.** Аўтамеханік Генры Форд заснаваў аўтамабільную кампанію *Ford Motor*. У гэты ж дзень была зарэгістраваная гандлёвая марка іншай знакамітай кампаніі — *PepsiCo*.

**1937.** У перапынку паміж паседжаннямі XVI з'езда КП(б)Б застрэліўся старшыня ўрада БССР Аляксандр Чарвякоў. Адзін з заснавальнікаў БССР і СССР, Чарвякоў быў прыхільнікам курсу беларусізацыі, што дало падставу ўдзельнікам з'езда абвінавацiць яго ў нацыяналізме.

**1947.** У Мінску пачаўся судовы працэс над удзельнікамі Саюза беларускіх патрыётаў — падпольнай арганізацыі навучэнцаў Глыбоцкага і Пастаўскага педвучылішчаў: 33 члены СБП былі асуджаныя да 5—25 гадоў зняволення. Увосень таго ж года былі асуджаныя яшчэ 10 чалавек.

**1948.** У Кітаі адбылася першая ў гісторыі спроба ўгону пасажырскага самалёта. Камандзір карабля адмовіўся падпарадкоўвацца загадам піратаў. Пачалася страляніна, і самалёт разбіўся. Загінулі ўсе, апрача галавара бандытаў.

**1958.** Пасля закрытага судовага працэсу ў Будапешце быў павешаны Імрэ Надзь — былы прэм'ер-міністр Венгрыі, які ў 1956 г. абвясціў пра аднаўленне шматпартыйнай сістэмы і выхад краіны з Варшаўскага дагавору.

**1963.** Валянціна Церашкова стала першай жанчынай, што паляцела ў космас: на караблі «Восток-6» яна зрабіла 48 віткоў вакол Зямлі.

*17 чэрвеня*

**1793.** У Гародні сабраўся апошні сойм Рэчы Паспалітай. Палац, у якім ён праходзіў, быў абкружаны расійскімі войскамі. Была прынятая новая Канстытуцыя краіны, якая аднаўляла выбарнасць караля, але з правам вета караля на рашэнні сойма. Сойм даў маўклівую згоду на другі падзел Рэчы Паспалітай.

**1818.** Нарадзіўся вядомы французскі кампазітар Шарль Гуно, аўтар оперы «Фауст». У гэты ж дзень у **1882** г. нарадзіўся адзін з буйнейшых кампазітараў нашага стагоддзя Ігар Стравінскі. Дарэчы, бацька аўтара «Вясны свяшчэннай» і «Жар-птушкі» быў беларусам з Рэчыцкага павета.

**1823.** Чарльз Макінтош запатэнтаваў непрамакальную тканіну для плашчоў і парасонаў.

**1890.** У Мінску адкрыўся гарадскі тэатр (цяпер — імя Янкі Купалы).

*18 чэрвеня*

**1840.** Мікалай I падпісаў указ пра замену ў афіцыйных дакументах тэрмінаў «Беларусь» і «Літва» («беларускія і літоўскія губерні») на «Северо-Западный край».

**1942.** Нарадзіўся адзін з лепшых кампазітараў сучаснасці Пол Макартні. Больш за 30 ягоных песень выходзілі на першае месца ў брытанскіх хіт-парадах, у тым ліку больш дзесяці ўжо пасля распаду *The Beatles*. Апошнім часам піша таксама сімфанічную музыку. Летась брытанская каралева ўзнагародзіла Пола шляхецкім тытулам.

**1955.** У Чыкага нарадзілася найвышэйшая з жывых жанчын Сэндзі Ален. Ужо ў 10 гадоў яе рост дасягаў 190 см, а ў 22, калі ёй зрабілі аперацыю на гіпофізе, каб спыніць далейшы рост, — 231,7 см. Цяпер яна працуе сакратаркай у офісе, носіць абутак 50-га памеру.

**1983.** Амерыканцы ўпершыню запусцілі ў космас (у складзе экіпажа чаўнака *Challenger*) жанчыну — Салі Райд. Раней лічылася, што месца жанчыну на борце небяспечна, але карабель праз тыдзень шчасліва вярнуўся на Зямлю.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## Футбол – это не секс

Главный тренер сборной Англии по футболу Глен Ходдл был весьма озадачен вопросами журналистов о сексуальной жизни своих игроков. «Это не самая важная проблема для нас», — отпарировал он на пресс-конференции, когда журналисты напомнили ему, что на последних Олимпийских играх в Нагано для хоккеистов многих стран были созданы условия, чтобы они могли жить в отеле вместе с женами или подружками. «И вообще, на определенном этапе для команды и для игры лучше, чтобы футболисты не занимались сексом вообще», — резюмировал Ходдл, на что журналисты ответили дружным смехом.

А что скажут своему шефу футболисты?

## Мир от футбола сходит с ума

**Политические события и лидеры отошли на второй план, уступая первые полосы газет и дебютные репортажи теленовостей футбольным кумирам и сообщениям из Франции, где на стадионах 10 городов проходит финальный турнир чемпионата мира по футболу.**

Поединки первого тура прошли в упорной борьбе и выявили примерное равенство сил. Из первых 10 матчей половина закончилась вничью. Еще в трех преимущество одной из команд было минимальным, в том числе четырехкратных чемпионов мира и главных фаворитов нынешнего первенства сборной Бразилии над командой Шотландии — 2:1. Самой крупной победы добились хозяева чемпионата — французы, разгромившие ЮАР — 3:0. В этом матче дважды поразил свои ворота защитник Пьер Исса. Дурной пример заразителен: опытнейший вратарь сборной Испании Андони Субисаррата в поединке с Нигерией после прострела полузащитника соперников Лаваля в падении отбил мяч в собственные ворота. А всего уже зафиксировано 6 подобных случаев — своеобразный рекорд.

К относительным неожиданностям чемпионата можно отнести ничейные исходы матчей Норвегия — Марокко, Италия — Чили, завершившиеся с одинаковым счетом 2:2, а также победу Нигерии над Испанией — 3:2. Впрочем, именно нигерийцы завоевали два года назад в Атланте титул олимпийских чемпионов. 11 футболистов из того золотого состава прибыли нынче во Францию.

Нелишне вспомнить, что лучшими командами планеты прежде становились: четырежды сборная Бразилии (1958, 1962, 1970, 1994), по три раза — сборные Италии (1934, 1938, 1982) и Германии (1954, 1974, 1990), дважды — Уругвая (1930, 1950) и Аргентины (1978, 1986), один раз — Англии (1966).

Семен ПЛОЦ

**САМЫЕ ДОРОГИЕ ИГРОКИ**

| Игрок | Страна происхождения | Из какого клуба продан | В какой клуб продан | Сумма трансфера, млн. долларов |
|---|---|---|---|---|
| Денилсон | Бразилия | "Сан-Паулу" *(Бразилия)* | "Бетис" *(Испания)* | 41 |
| Роналдо | Бразилия | "Барселона" *(Испания)* | "Интер" *(Италия)* | 36 |
| Алан Ширер | Англия | "Блэкберн" *(Англия)* | "Ньюкасл" *(Англия)* | 27 |
| Кристиан Вьери | Италия | "Ювентус" *(Италия)* | "Атлетико" *(Испания)* | 22 |
| Марсело Салас | Чили | "Ривер Плейт" *(Аргентина)* | "Лацио" *(Италия)* | 18 |

*По данным газеты "Спорт-Экспресс"*

## Черный рынок красных билетов

Билеты на футбольные матчи чемпионата мира, которые проходят в Марселе, — красного цвета. Купить их практически невозможно: все давно распродано. Но есть в Марселе место — а именно английский паб *Red Lion*, — где билеты есть, но стоят они там в 5-10 раз дороже своей официальной цены. Суммы доходят до 1.500 франков (300 долларов).

Но это все же настоящие билеты. Кроме того, в Марселе действует широкая сеть распространения билетов, которые стоят в принципе недорого, но не гарантируют места на стадионе, потому что — фальшивые. Полиция пока бессильна в борьбе с «фальшивобилетчиками».

Михаил ГРИГОРЬЕВ

## Футболист номер один

**Лучший футболист мира бразилец Роналдо *(на снимке)* удостоен памятника при жизни.**

В парижском музее Гревэн одновременно с началом чемпионата мира по футболу представили восковую фигуру знаменитого бразильца, сообщает *Reuter*. Роналдо оказался в одной компании с президентом США Биллом Клинтоном, генералом Де Голлем, супермоделью Клаудией Шиффер, теннисистом Питом Сампрасом и другими знаменитостями. Восковой Роналдо действительно очень похож на оригинал.

Б.П.




## Королевская бухгалтерия

**Несмотря на то, что в наше время короли царствуют, но не правят, живут они по-прежнему роскошно.**

Только телефонных счетов в Букингемском дворце за год накапливается на миллион долларов. Ежегодно на «мелкие расходы» королевы Елизаветы II выделяется 14 миллионов долларов. Содержание королевских замков и дворцов, считающихся национальным достоянием, обходится в 28 миллионов. Плюс расходы на поездки, охрану... В результате королевская семья ежегодно изымает из британской казны 110 миллионов долларов.

В Испании жизнь значительно дешевле — испанский король Хуан Карлос получает 7,5 миллиона долларов в год на личные и 25 миллионов — на все прочие расходы.

Годовой бюджет шведского короля — 10 миллионов долларов. Примерно такой же суммой довольствуется и голландская королева Беатриса.

И только один монарх не стоит государственной казне ни копейки — принц Лихтенштейнский. Он — глава своего государства и министр иностранных дел в одном лице. Да к тому же еще и миллионер.

## Маленькие радости миллионера

**Американский миллионер Алан Гринберг пожертвовал 1 миллион долларов в пользу бедных мужчин.**

Деньги пойдут на приобретение чудодейственного лекарства «Виагра», которое повышает мужскую потенцию. Бедные слои населения не могут позволить себе чудо-пилюли по 10 долларов за штуку. Поэтому Алан Гринберг решил, по его словам, «доставить удовольствие сотням людей», ведь земных радостей достойны не только богатые американцы.

Гринберг известен своими эксцентричными жестами. Например, не так давно он за свой счет оборудовал несколько санузлов в одном из госпиталей Нью-Йорка. И велел в каждом отхожем месте повесить мемориальную доску в честь своего брата.

Михаил ГРИГОРЬЕВ

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1201 Нумар падпісаны ў друк 15.06.98 (15:00) Наклад — 18.500